№ 3 (3948)

13 студзеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЫЛО СКАЗАНА!



*Аляксандр Лукашэнка:*

## – Да 2015 года мы павінны наблізіць памеры заработнай платы да тысячы долараў у эквіваленце.

**(З выступлення на Усебеларускім сходзе 8 снежня 2010 года.)**

## Што маем...

Надышоў 2015 год. Пакуль няма афіцыйнай статыстыкі аб заробку за снежань. Але што да лістападаўскай зарплаты, то намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата ў лістападзе 2014 года склала 6 мільёнаў 194 тысячы рублёў, гэта амаль 573 долары (пры курсе Нацбанка на 30 лістапада 10.810 рублёў за долар).

А дзе ж 1000 долараў?

СІТУАЦЫЯ

## *Застанемся без зарплат?*

Не сакрэт, што многія беларускія прадпрыемствы знаходзяцца ў такім эканамічным стане, што не могуць своечасова выплаціць заробкі сваім работнікам, таму вымушаны браць у банках крэдыты на выплату зарплаты. Нацыянальны банк вырашыў прыкрыць гэтую крамку.

Учора стала вядома, што галоўны банк краіны разаслаў у банкі ліст, згодна з якім крэдыты на выплату заработнай платы могуць выдзяляцца дзяржарганізацыям *«толькі пры ўмове апераджальнага росту прадукцыйнасці працы над ростам намінальнай налічанай сярэднямесячнай заработнай платы работнікаў».*

Нагадаем, што зарплаты ў доларавым эквіваленце ўжо і так абясцэніліся прыблізна на 30%. Пасля доўгіх святаў і выхадных, а таксама двухтыднёвых вымушаных канікул у многіх дзяржпрадпрыемствах казаць пра нейкі рост прадукцыйнасці працы проста не прыходзіцца. А вось праблемы з дэфіцытам абаротных сродкаў у студзені абавязкова паўстануць амаль ва ўсіх суб'ектаў гаспадарання. Такім чынам, пытанне, як выплаціць заробкі, становіцца для многіх прадпрыемстваў актуальным, як ніколі.

Адначасова Нацыянальны банк рэкамендаваў банкам не прадастаўляць крэдыты прадпрыемствам на фінансаванне бягучай дзейнасці ў выпадку росту ў крэдытаатрымальніка пратэрмінаванай дэбіторскай запазычанасці і павелічэння запасаў гатовай прадукцыі на працягу апошніх шасці месяцаў. Адным словам, год пачынаецца жорстка.

В НОМЕР!

## *В США состоится саммит по борьбе с терроризмом*

Как сообщила администрация США, в следующем месяце в Вашингтоне пройдет саммит, посвященный борьбе с воинствующим экстремизмом. Лидеры европейских стран и США призвали к ужесточению пограничного контроля и мер, связанных с мониторингом пользователей интернета.

Об этом совещании, назначенном на 18 февраля, объявил министр юстиции США **Эрик Холдер.**

SOS!

## “Гомсельмаш” згубіў 2 тысячы работнікаў

Ужо немагчыма не заўважыць, што беларускім прамысловым прадпрыемствам выжываць вельмі цяжка. Але мала хто ўяўляе, наколькі цяжка.

Каб можна было зразумець, у якім стане знаходзяцца прамысловыя гіганты, працытуем старшыню афіцыйнага прафсаюза РУП “Гомсельмаш” **Пятра АХРАМЕНКУ:**

– На пачатку мінулага года сярэдняспісачная колькасць працуючых у холдынгу «Гомсельмаш» была крыху больш за 16,5 тысячы чалавек, на працягу года звольніліся больш за дзве тысячы чалавек. Цяпер практычна няма новых работнікаў. Узровень заработнай платы рэзка знізіўся. Адбылося гэта за кошт адпраўкі работнікаў у адпачынкі без захавання заработнай платы, няпоўнага працоўнага месяца і аплаты 2/3 тарыфнай стаўкі службовага акладу. І на гэтым фоне прымаюцца пастановы №569 і №744, якія яшчэ дадаткова раздражняюць народ.

Нагадаем, што пастановай №569 урад змяніў парадак выплаты бальнічных і дапамог па цяжарнасці і родах. Згодна з дакументам, тыя, хто не адпрацаваў паўгода, цяпер атрымліваюць проста смешныя сумы.

Пастанова №744 тычылася аплаты працы. Ёю фактычна было дадзена чырвонае святло павелічэнню заробкаў і, наадварот, дазволена за дрэнныя вынікі працы прадпрыемства караць рублём не начальства і менеджараў, а простых рабочых.

СЛЫШАЛИ?

## *Интерпол объявил Януковича в розыск*

Министр внутренних дел Украины Арсен Аваков заявил, что специальная комиссия Интерпола приняла решение об объявлении в международный розыск бывшего президента страны Виктора Януковича. Кроме этого, сообщил он, Интерпол объявил в розыск сына Януковича – Александра Януковича, экс-премьера Николая Азарова и других бывших высокопоставленных должностных лиц.

Глава МВД Украины отметил, что специальная комиссия Интерпола приняла соответствующее решение после обращения украинских властей. Как говорится на сайте Интерпола, Янукович обвиняется в присвоении или растрате имущества, злоупотреблении в особо крупных размерах.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



*Зміцер ДАШКЕВІЧ:*

## “Калі працаваць па 12 гадзін у дзень, то можна і тысячу долараў зарабіць за месяц...”

– Калі я выйшаў на волю, то, паводле правілаў нагляду, мусіў абавязкова ўладкавацца на працу, – расказаў учора “Народнай Волі” былы палітвязень, старшыня “Маладога фронту” (зарэгістраванага ў Чэхіі) **Зміцер ДАШКЕВІЧ.** – Мне адразу прапанавалі пайсці на біржу, але я адмовіўся працаваць за капейкі. Калі спрабаваў уладкавацца ў нейкія прыватныя фірмы, то сутыкаўся з тым, што людзі адразу насцярожана ўспрымалі беларускую мову і адмаўлялі: маўляў, нейкі апазіцыянер, потым праблемы яшчэ ўзнікнуць. У выніку зарэгістраваўся індывідуальным прадпрымальнікам па вырабе мэблі. Работа такая: я выязджаю на замову, раблю праект з заказчыкам, потым замаўляю неабходныя матэрыялы і ўжо на складзе збіраю мэблю. На сям'ю заробку пакуль хапае – у эквіваленце атрымліваецца 500–600 долараў. Калі працаваць па 12 гадзін у дзень, то можна і тысячу долараў за месяц зарабіць, але я хачу больш часу праводзіць з сям'ёй.

**– Былі часы, калі “Малады фронт” нагадваў пра сябе ледзь не кожны дзень, а цяпер нешта не чуваць. У чым прычына?**

– Прычына дэмаграфічная. Па-першае, у краіне дэмаграфічны крызіс, па-другое, у нас у саміх цяпер дзеці. Так склалася, што нашы актывісты цяпер у тым узросце, калі ў іх маладыя сем'і, а новых актывістаў не прыбаўляецца. З папаўненнем шэрагаў праблема не толькі ў нас. Такая сітуацыя ва ўсіх партыях і рухах. Нічога парадаксальнага ў гэтым няма – людзі расчараваліся ў палітыках, якія час ад часу на прэзідэнцкіх выбарах паказваюць сябе не з лепшага боку, а некаторыя дэманструюць нават здраду ідэалам. Да таго ж за 20 гадоў вырасла новае пакаленне, якое не надта разумее, навошта біцца за бел-чырвона-белы сцяг. Я ў 1990-я, калі бачыў, што міліцыянты вырываюць сцяг з рук дэманстрантаў, не мог зразумець, як такое магчыма. А гэтым напляваць... Не ўсім, канешне. Прыярытэты змяніліся з-за падзей ва Украіне. Галоўная пагроза адчуваецца цяпер, як ніколі. Мы ладзім кампаніі салідарнасці з украінскім народам. Збіраем дапамогу для іх сем'яў. Не забываемся і пра нашых палітвязняў. Арганізоўваем акцыі салідарнасці з імі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

АКТУАЛИИ

*Светлана КАЛИНКИНА*



# Пешки, к бою!

Из-за многочисленных праздников мы все еще продолжаем «переваривать» событие, которое произошло под самый занавес минувшего года. Случился второй за один президентский срок обвал белорусского рубля, и, как я вижу, Александр Лукашенко попытался прикрыть этот беспрецедентный провал экономической политики, образно говоря, сменой пешек на игровом поле.

Освобождены от должностей соавторы мифического «белорусского экономического чуда». Бывший премьер-министр Михаил Мясникович, который так и не объяснился, как случилось, что народ нищает, зарплата у премьера небольшая, а часы на руке – за несколько десятков тысяч долларов. Бывший глава Нацбанка Надежда Ермакова – скромница, рассказывавшая, что носит одни туфли, питается кефиром и занимается благотворительностью, но почему-то забывшая упомянуть хоромы в Дроздах. Вице-премьер Петр Прокопович, также хорошо освоивший «царский микрорайон» и обманувший нас даже под занавес карьеры. «Если вы мне верите, то девальвации не будет», – сказал он буквально в день, когда купить валюту стало на 30% дороже...

Впрочем, есть что вспомнить практически про каждого из ушедших. Но все-таки более важно понять, кто пришел на их место. Государственные СМИ почему-то демонстрируют оптимизм и даже говорят про то, что к управлению страной пришла «команду реформаторов». А мне в связи с этим вспоминается известная многим журналистам байка-быль.

В 1935 году газета «Правда» опубликовала материал про удивительного шахтера Стаханова, который перевыполнил норму в 14 раз! Вот только имя героя в статье перепутали – назвали не Андреем, а Алексеем. О досадной ошибке доложили Сталину. «Вождь народов» отреагировал просто: он сказал, что газета «Правда» не ошибается. В итоге передовику производства был вручен паспорт с новым именем.

Когда нового премьер-министра Андрея Кобякова пытаются представить в качестве реформатора, то надо понимать, что ему, как Стаханову, просто следует поменять паспорт. На высших государственных должностях Кобяков с 1995 года. С 2000-го – непосредственно отвечал за экономику в должности первого вице-премьера, вице-премьера, министра экономики. И даже в последние годы, когда Кобяков уже возглавлял Администрацию президента, он фактически являлся главным экономическим консультантом главы государства. И большинство совещаний проходили так: докладывает министр, вице-премьер, премьер, глава Госконтроля... У каждого свои аргументы, объяснения и оправдания, и в конце концов Лукашенко обращается к Кобякову: «А вы что скажете?»

Кобяков, надо отдать ему должное, действовал в духе «и нашим, и вашим». Но, что более важно, он как куратор экономического блока причастен ко всему, что творили с нашей экономикой на протяжении последнего десятилетия. Поэтому смешно видеть, что его вдруг пытаются представить спасителем, реформатором, свежей головой... На самом деле, головная боль у всей страны из-за того, что такие, простите, кобяковы остаются на плаву, даже если в их профессиональном арсенале немало провалов.

Возьмем другой пример – нового главу Администрации президента Александра Косинца. В новой должности он уже повелел чиновникам помогать всем гражданам, как родным, а также работать, работать и работать на результат. Театрально до нелепости! Потому что если Косинец чем и прославился, работая в должности председателя Витебского облисполкома, так это, на мой взгляд, умением услужить и понравиться. Возьмем хотя бы последние обнародованные данные о самых бедных районах Беларуси. В десятке беднейших – шесть районов представляют именно Витебскую область. Это: Браславский, Ушачский, Шарковщинский, Миорский, Шумилинский и Лиозненский районы. Вместо того, чтобы как следует спросить с руководителя области за такое «управленческое мастерство», его, наоборот, повышают в должности, назначая главой Администрации президента. Теперь он всю «вертикаль» будет учить, как надо работать.

Просто в голове не укладывается, какой реформатор!

Павел Каллаур – новый глава Национального банка. Говорят, очень хороший человек и большой профессионал. Но, извините, с 1993-го по 1999 год он работал заместителем председателя правления Национального банка, с 1999-го по 2010 год – первым заместителем главы Нацбанка. Я так понимаю, по роду своих обязанностей не семечки щелкал и не цветочки поливал. И вот теперь Каллаур, весь в белом, выходит спасать белорусский рубль. Ему, используя метафоры, тоже выписывайте новый паспорт как человеку, будто бы не имеющему никакого отношения к тому, что девальвация белорусского рубля побила мировые рекорды. Однако есть пятна и на фраке этого «реформатора», очень заметные пятна.

Новый вице-премьер Наталья Кочанова окончила Новополоцкий политехнический институт по специальности «Водоснабжение и канализация». Теперь будет курировать культуру, медицину, образование. Возможно, Кочанова тоже очень хороший человек, но проблемы культуры и канализации – это, мягко говоря, разный профиль. За что обидели культуру?

Впрочем, система нашего государственного управления такова, что даже умные и талантливые для нее не спасение. Когда помощником президента по экономике стал Кирилл Рудый, знающие люди онемели от удивления. Вундеркинд, умница, в 23 года – кандидат наук, в 33 – доктор, стажировался в США, изучал опыт китайских реформ. И что? Полтора года Рудый у Лукашенко в помощниках, а его «большой босс» пару недель назад признался, что слово «холдинг» для него до сих пор почти матерное. Главный способ управления экономикой каким был, таким и остался: арестовать, посадить, надеть наручники, снести голову... Бессилен доктор экономических наук Кирилл Рудый со своим знанием экономической теории. Просто бессилен!

Поэтому мой вывод после анализа последних кадровых указов очень простой. Главная оппозиция действующему президенту сегодня – это экономика. Как с ней бороться, он, судя по всему, и сам толком не знает. Двигает фигуры по шахматной доске: пешку сделает ферзем, ферзя – пешкой, но это уже даже не игра. Это видимость.

ЛІЧБА ДНЯ

## 2,5 мільёна чалавек

Нацыянальны аэрапорт Мінск апублікаваў вынікі сваёй працы за цэлы год. Мяркуючы па афіцыйнай статыстыцы, у 2014 годзе беларусы сталі дазваляць сабе авіяпералёты значна часцей. За 12 месяцаў аэрапорт абслужыў 2 мільёны 593 тысячы пасажыраў, што на 18,9% больш у параўнанні з аналагічным перыядам 2013 года.

СОЦИОЛОГИЯ

# Экономика все больше и больше определяет отношение белорусов к государственной власти

Недавно Независимый институт социально-экономических и политических исследований (зарегистрированный в Вильнюсе) провел очередной национальный опрос.

Анализ ответов показал, что экономика все больше и больше определяет отношение белорусов к государственной власти. Так, за последний год количество опрошенных, считающих, что в Беларуси надо проводить рыночные реформы, увеличилось с 59,7% до 63,2%. В то же время с сентября 2008 г. по декабрь 2014 г. количество тех, кто считает, что рыночные реформы в Беларуси успешно развиваются, уменьшилось с 29,8% до 19,9%, а тех, кто считает, что они *«серьезно и не начинались»,* возросло с 15,7% до 26,5%. Количество тех, кто считает, что в экономике страны за последнее время было больше благоприятных изменений, за этот же период снизилось с 20,7% до 10,8%, а тех, кто придерживается противоположного мнения, – выросло с 24,4% до 35,4%. Если в январе 2007 г. 68,2% считали, что чаще всего ведет к богатству труд, а 37,6% – образование, то сегодня так думают 47% и 26,2% респондентов соответственно.

Не удивительно, что если на вопрос «В какой мере граждане Беларуси выполняют свои обязательства перед государством (соблюдают законы, платят налоги и т.п.)?» «в полной мере/по большей части выполняют» ответили 61,4%, а «по большей части/совершенно не выполняют» – 7%, то при ответе на вопрос «В какой мере государство выполняет свои обязательства перед гражданами Беларуси?» это соотношение составило 35,9% против 29,2%. Поэтому свыше 60% опрошенных согласились с заявлением премьер-министра (*уже бывшего.* – **Ред.**) М.Мясниковича, что *«главная проблема экономики Беларуси кроется в беспомощных и безынициативных руководителях, которые без указания сверху ничего не могут»* (не согласились 32,4%). Усиление разрыва между властью и народом особенно очевидно при ответе на вопрос «Есть ли в Беларуси, по вашему мнению, сегодня народное единство или нет?». Ответов «скорее есть» оказалось не намного больше, чем «скорее нет»: 48,4% против 42,9% (затруднились ответить только 8,7%).




Возрастание фактора экономики в формировании отношения белорусов к власти особенно заметно при сравнении с динамикой изменения отношения к проблемам демократии, политических свобод и прав человека. Например, если в марте 2003 г. соотношение суммы позитивных и негативных ответов на вопрос «Как вы думаете, соблюдаются ли права человека в Беларуси?» было 32,2% против 62,4%, то сегодня – 57,6% против 37,7%. В июне 2011 г. на вопрос «Что вы думаете о готовности людей в Беларуси выражать свои политические взгляды?» соотношение ответов «никто не боится/только немногие боятся» против «многие боятся/все боятся» было 27,5% против 68,4%, а сегодня – 41,1% против 54,2%. С недавним заявлением президента, что *«в постсоветских республиках народ демократии наелся. Сейчас, наоборот, идет процесс и пользуется поддержкой народа процесс сильного государства, которое не должно допустить хаоса и тем более гражданской войны. Особенно после событий в Украине»,* согласились 55,5%, не согласились 32,1%.

Именно экономика становится самой серьезной проблемой для руководства страны. Впервые за последний год тенденция повышения доверия и электорального рейтинга А.Лукашенко сменилась на противоположную: если в декабре 2013 г. ему доверяли 37,7% респондентов, в июне 2014 г. – 49,6%, в сентябре – 53,5%, то сегодня – 49,9%, готовы были голосовать за него на президентских выборах соответственно 34,8%, 39,8%, 45,2%, а сегодня 40%. Если, отвечая на вопрос «Каким вам представляется образ нынешнего президента?», в январе 2007 г. 38,9% считали, что *«он медленно, но верно идет по пути реформ к цели»,* а 13% – что *«он стремится сохранить прежнюю систему управления»,* то сегодня – уже 27,8% и 24,8% соответственно. С его недавним заявлением *«честность и справедливость, которую я вам обещал, до сих пор во главе моей политики»* согласились 42,3%, а ровно столько же не согласились (15,4% затруднились ответить). А на прямой вопрос «Пошли бы вы лично защищать Александра Лукашенко от какой-либо угрозы?» положительный ответ дали 18,7%, а отрицательный – 62,2% (19,1% затруднились ответить).

ПАД ГРАДУСАМ

## *Вясна сярод зімы...*

*Не па сезоне цёплае надвор'е будзе ў Беларусі на гэтым тыдні.*




Паводле слоў сіноптыкаў, тэмпературны рэжым будзе адпавядаць, хутчэй, сярэдзіне сакавіка. *«Сярэдняя тэмпература паветра перавысіць кліматычную норму на 3–6 градусаў, а па поўдні краіны ў асобныя дні – на 8 градусаў»*, – сказаў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Дзмітрый Рабаў**.

Сёння днём да плюс 1–6 градусаў. Часам будуць ісці мокры снег, дождж.

У сераду ў Беларусь пачнуць паступаць яшчэ больш цёплыя паветраныя масы. Тэмпература паветра складзе ноччу ад мінус 2 да плюс 5 градусаў. Днём чакаецца плюс 1–6 градусаў, у паўднёвых раёнах паветра прагрэецца да 8 градусаў. Месцамі пройдуць кароткачасовыя ападкі, у асноўным у выглядзе дажджу. Ноччу і раніцай у асобных раёнах магчымы туман, чакаецца слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца.

Крыху халадней стане 15 студзеня. Тэмпература паветра ноччу складзе ад мінус 4 да плюс 2 градусаў. Днём у чацвер будзе ад 2 градусаў марозу да 4 градусаў цяпла.

